# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 14 (175), 5 КРАСАВІКА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ




## ГРАМАДЗЯНІН ПЛАНЕТЫ

*Вясна ў Франкфурце-на-Майне наступае раней, чым на Беларусі, і прахожыя, як нам падаецца, здзіўлена глядзяць на нашыя паліто. Магчыма, проста падаецца — тут, як і паўсюдна ў Еўропе, не надта зважаюць на нязвыклае. Немцы — народ "у сабе", суседзі толькі вітаюцца, не цікавячыся, хто ты і навошта тут. А можа, славянскай душы якраз і не хапае хоць чыёй зацікаўленасці тваёй асобай?*

*Пра гэта мы не пытаемся ў Барыса Уладзіміравіча Кіта — нашага славутага земляка, заслужанага прафесара Мэрылендскага універсітэта, акадэміка і віцэ-прэзідэнта акадэміі "Еўразія", ганаровага грамадзяніна Навагрудка — адны ягоныя тытулы занялі б паўстаронкі... Нам проста прыемна сустрэцца з ветлівым, энергічным, вельмі абаяльным суразмоўцам, якому 6 красавіка спаўняецца 85 гадоў, і перадаць яму прывітанне з радзімы і ад усіх тых, хто ведае ягоны ўклад у сусветную навуку, а таксама ў беларускае асветніцтва.*

*Дом, у якім ён займае невялікую кватэру, стаіць ля вакзала, і вечарам тут адкрываецца дзівосная панарама асветленага рознакаляровай рэкламай горада. Сюды прыходзяць яму лісты з Беларусі, тут ён працуе над архівам, частку якога перадаў два гады таму ў Навагрудскі краязнаўчы музей. Там ёсць сапраўды унікальныя матэрыялы, як унікальнае і ўсё жыццё Барыса Уладзіміравіча, у якім былі гады аддана́й працы на ніве беларускага асветніцтва, праследаванні немцаў і падазрэнні савецкіх энкавэдыстаў, эміграцыя, вялікая навуковая праца і поспех у ёй.*

*Агульныя ўспаміны, якія ў нас ёсць — падарожжа па ягоных родных мясцінах летась у верасні — даюць падставы для доўгай гаворкі пра Карэліччыну і Навагрудчыну, пра гістарычны лёс гэтага краю, які, нягледзячы на доўгае гістарычнае забыццё, мае ўсе магчымасці для ўздыму сусветнай турыстычнай вядомасці. Калісьці, будучы дырэктарам Беларускай Навагрудскай гімназіі, Барыс Уладзіміравіч шмат зрабіў для таго, каб ягоныя вучні захапляліся гісторыяй роднага краю, зразумелі, што беларусы — не горшыя за іншых, што яны маюць свае адметныя карані. Святло ягонай душы, выпраменена́е ў 30-40-я гады, захавалася ў вучнях — некаторыя з іх прыехалі ў Карэлічы на сустрэчу са сваім любімым настаўнікам з Вільні, з Маладзечна. Усё сваё жыццё, гнаныя і рэпрэсіраваныя за любоў да Бацькаўшчыны, яны заставаліся беларусамі — беларусам сябе адчувае і прафесар Міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт. І таму з хваляваннем сочыць за ўсім, што дзеецца на Беларусі.*

— Першае, з чаго пачынаецца незалежнасць, гэта ўласная нацыянальная школа, — гаворыць ён. — Асвета на Беларусі павінна мець ярка выказаны нацыянальны характар, выхоўваць нацыю, якая апошнія стагоддзі не мела магчымасці выказаць сябе. Найважнейшая задача на сёння — гэта каб Беларусь выкарыстала атрыманую ёю незалежнасць, свабоду для ўмацавання беларускай нацыі, безумоўна, разам з дэмакратычнымі рэформамі, каб беларусы па-сапраўднаму ўвайшлі ў сям'ю еўрапейскіх нацый. Трэба браць прыклад з нашых суседзяў — Польшчы, Венгрыі, Чэхіі, а таксама найбліжэйшых — Літвы, Латвіі. Мы ж бачым, што гэтыя дзяржавы хутка развіваюцца і сітуацыя ў іх паляпшаецца. І іх паважаюць ва ўсім свеце. Трэба, каб гэтак жа паважалі і нас. Гэта, безумоўна, залежыць ад беларускага ўрада і найперш прэзідэнта, якія павінны кіравацца Канстытуцыяй. Дарэчы, у ёй сказана, што дзяржаўная мова на Беларусі — беларуская. Трэба і трымацца гэтага, а не хістацца ў розныя бакі і ўводзіць дадатковыя дзяржаўныя мовы...

*Адчуваецца, што нашы апошнія падзеі выклікаюць у яго горыч. Што ж, гэта і не дзіўна — яшчэ пры немцах ён сядзеў у турме ў Глыбокім за тое, што пераступіў адведзеную імі мяжу для адукацыі беларусаў — толькі пачатковую дазвалялі яны мець "унтэрмэншам". Барыс жа Уладзіміравіч, які працягваў сваю высакародную працу настаўніка як пры палянах, пры Саветах, так і падчас нямецкай акупацыі, думаў аб адным — ягоны народ павінен мець сваю інтэлігенцыю. Ягоны народ павінен мець сваю мову і высока ўздымаць яе аўтарытэт. Як радаваўся ён, калі Беларусь аб'явіла аб сваім суверэнітэце! З якой трапяткой радасцю ступіў першы раз на родную зямлю пасля амаль пяцідзесяцігадовага перапынку!*



(Заканчэнне на стар. 3)

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## УСЕ НА... ПРАФІЛАКТЫКУ?!

**Бадай, самы ўдалы першакрасавіцкі жарт за апошнія гады — змешчаная на гэты тыдзень ва ўсіх цэнтральных беларускіх перыядычных выданнях нароўні з іншымі праграмамі тэлевізійных каналаў і праграма перадач 8-га канала, чуткі аб спыненні дзейнасці якога луналі ў паветры на працягу апошняга месяца. Хаця, на самой справе, такая інфармацыя яшчэ напрыканцы лютага афіцыйна зыходзіла з паведамленняў Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ.**

Першага і другога красавіка (каб, напэўна, не псаваць святочны настрой гледачам) 8-ы канал яшчэ радаваў мінчукоў сваімі передачамі. А пачынаючы з трэцяга, ён зачыніўся на "прафілактыку і тэхнічнае пераабсталяванне" тэрмінам на 1 месяц.

Прафілактыка, безумоўна, рэч неабходная, але не трэба мець, як той казаў, "сямі пядзяў у ілбе", каб убачыць, што яна супадае з пачаткам рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. І з крыніц, набліжаных да кіраўніцтва 8-га канала, стала вядома, што прафілактыка можа расцягнуцца і на значна большы тэрмін. Можа, гэта залежыць ад таго, у колькі тураў намечана правесці выбары?

Яшчэ адно невялічкае "супадзенне". На беларускім радыё творчым калектывам праграм нібыта неафіцыйна рэкамендавана не прымаць у прамы эфір тэлефанаванні, тым самым паставіўшы іх у тупік, бо рэйтынг на передачы, асабліва музычныя, з удзелам зорак беларускай эстрады залежаў менавіта ад дыялога са слухачамі. Такім чынам, кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі вырашыла папярэдзіць магчымыя знявагі годнасці журналістаў. Прыемна, безумоўна, бачыць праявы такіх "клопатаў". Але радыёжурналісты мяркуюць іначай...

**М.Р.**

## СУРОДЗІЧАМ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

У сувязі з 77-і ўгодкамі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі народ нашай краіны павіншаваў прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі.

Суродзічаў на Бацькаўшчыне таксама віталі ад імя Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня — яго старшыня Антон Шукелойць; ад імя Згуртаваньня беларусаў Канады — сакратар Згуртаваньня Юрка Рапецкі; ад Беларускага кангрэсовага камітэта Амерыкі — старшыня Расціслаў Завістовіч; ад Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады — старшыня Раіса Жук-Грышкевіч; ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (сакратар у Бельгіі) — старшыня Янка Жучка.

Беларуская дыяспара адчувае сваю еднасць з Бацькаўшчынай, робіць усё магчымае, каб пашырыць у свеце інфармацыю пра Беларусь, наладзіць эканамічныя і культурныя сувязі нашай краіны з дзяржавамі, дзе жывуць беларусы.

"Быць гаспадарамі сваёй зямлі і сваёй долі" — жадаюць нам беларусы Вольнага свету.

## МЕСЦА ДЛЯ МЕЦЭНАТАЎ — ВАКАНТНАЕ

Супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю ў сферы культуры і мастацтва абапіраецца на цэлы шэраг дакументаў, падпісаных на міждзяржаўным, міжведамасным і рэгіянальным узроўнях. У канцы сакавіка міністр культуры і друку нашай рэспублікі Анатоль Бутэвіч пабываў у Польшчы па запрашэнні міністра культуры і мастацтва гэтай краіны Казімежа Дэйміка. У Варшаве яны падпісалі чарговы пратакол аб кантрактах дзвюх міністэрыяў на 1995-96 гады. У перамовах таксама прыняў удзел пасол Беларусі ў Польшчы сп.Георгій Таразевіч.

Своеасаблівай уверцюрай да новага этапу супрацоўніцтва дзвюх краін стаўся ўдзел Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Міжнародным тыдні тэатраў "Беласток-95". Нашы артысты паказалі там "Ідылію" Дуніна-Марцінкевіча. Спектакль прайшоў пры аншлагу і меў велізарны поспех. У фестывалі ўзялі ўдзел таксама трупы з Літвы, ЗША, Іспаніі, Украіны. Скарыстаўшы выпадак, сп.Бутэвіч правёў у Беластоку сустрэчы з мясцовымі ўладамі ваяводства, сустрэўся з Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

Як адзначыў начальнік аддзела міжнародных сувязей Міністэрства культуры і друку Канстанцін Шалястовіч, падпісаны міністрамі пратакол утрымоўвае канкрэтны план сумеснай працы па самых розных накірунках культурнай дзейнасці. У прыватнасці, прадугледжваецца абмен мастацкімі калектывамі, дэлегацыямі спецыялістаў, экспертамі, музыкантамі, выставамі. Вялікая ўвага ў пратаколе нададзена супрацоўніцтву ў галіне аховы агульнай культурнай спадчыны. Сёлета ў Мінск прыедуць польскія акцёры для пастаноўкі оперы "Парыя" ў Вялікім тэатры Беларусі, а нашыя творчыя сілы будуць задзейнічаныя ў сцэнічным увасабленні ў Польшчы оперы "Дзікае паляванне караля Стаха".

Значнае месца ў пратаколе адведзена забеспячэнню ўмоваў для культурнага развіцця нацыянальных меншасцяў — беларусаў у Польшчы, палякаў на Беларусі. Прадугледжваецца падтрымка дзейнасці іх саюзаў, таварыстваў, перыядычных выданняў. Абедзве краіны маюць намер актывізаваць супрацоўніцтва ў галіне выдання перакладной літаратуры і кнігаабмену. Запланавана адкрыццё беларускай кнігарні ў Варшаве, а польскай — у Мінску. Дакумент прадугледжвае таксама абмен дэлегацыямі журналістаў.

Аднак якім бы канкрэтным ні быў дакумент, на ягоную рэалізацыю патрэбны сродкі, якіх у нашага культурнага ведамства нестае. Такім чынам, для мецэнатаў у гэтай сферы заўсёды знойдзецца вакантнае месца.

**Віктар КУКЛОЎ**

## ПАМЁР ПАЭТ...

Вялікую страту панесла беларуская літаратура — 2 красавіка 1995 года памёр народны паэт Беларусі Пімен Панчанка. Перастала біцца сэрца чалавека, які ўсё свае жыццё аддаў служэнню сваёй краіне.

Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў г.Таліне, куды яго бацькі змушаны былі з'ехаць у пошуках заробку. Але ўжо ў 1920 годзе сям'я вярнулася ў Беларусь. Тут пачыналіся шляхі-пуцявіны будучага паэта.

У 1934 годзе Пімен Панчанка скончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску, а пазней, у 1939-м, — Мінскі настаўніцкі інстытут. Працаваў у школах Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне.

З 1939 па 1946 год жыццёвы лёс Пімена Панчанкі звязаны з нялёгкімі салдацкімі дарогамі. На франтах Другой сусветнай вайны — Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім — ён змагаўся як мужны баец і палымяны паэт.

Пасля вайны Пімен Панчанка працаваў у рэдакцыях часопіса "Вожык", газеты "Літаратура і мастацтва", сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У складзе беларускай дэлегацыі прымаў удзел у рабоце XIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, старшынёй Рэспубліканскага камітэта абароны міру. Ён — Ганаровы акадэмік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Першыя вершы Пімена Панчанкі з'явіліся ў 1934 годзе. Яны вызначаліся юнацкай узнёсласцю і натхнёнасцю. За гады плённай творчай працы Пімен Панчанка выдаў дзесяткі кніг — вершаў і паэм, перакладаў, публіцыстыкі, успамінаў. Шырокае прызнанне атрымала творчасць паэта не толькі на Беларусі, але і за яе межамі.

Пімен Панчанка — паэт яркага таленту, усёй сваёй творчасцю, жыццём знітаваны з народам, з якім ён да апошняга дыхання быў разам і ў суровыя гады Другой сусветнай вайны, і ў гады нялёгкай мірнай працы, і ў складаны, поўны супярэчнасцей наш час. Арыенціры яго паэзіі вельмі ясныя і дакладныя: гэта, як ён сам пісаў у аўтабіяграфіі, "праўда жыцця, — праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць..." І таму так бескампрамісна змагаўся ён паэтычным словам супраць хлусні, дэмагогіі, прыстасаванства, абыякавасці; і таму з такой праніклівай задушэўнасцю, чуласцю, пяшчотай, глыбокім пачуццём чалавечнасці ён апяваў свайго сучасніка; і таму так горача любіў свой народ і Радзіму, змагаўся за яе нацыянальнае адраджэнне.

Паэзія Пімена Панчанкі — паэта грамадзяніна, паэта-патрыёта, прасякнутая людскімі клопатамі і трывогамі, будзе заўсёды з намі.

Будзе жыць у памяці народнай воблік Пімена Емяльянавіча Панчанкі, чалавека шчодрай, багатай душы, чыстага сумлення.

**Адамчык В.У., Андраюк С.А., Аўрамчык М.Я., Бамбіза І.М., Барадулін Р.І., Блакіт (Болтач) В.У., Брыль І.А., Бураўкін Г.М., Бутэвіч А.І., Быкаў В.У., Вярцінскі А.І., Гарэцкі Р.Г., Гілевіч Н.С., Гіль (Гілевіч) М.С., Гніламёдаў У.В., Грахоўскі С.І., Грыб М.І., Далідовіч Г.В., Дудараў А.А., Жалязоўскі А.П., Законнікаў С.І., Звонак П.Б., Зуёнак В.В., Каваленка В.А., Казько В.А., Кіслік Н.З., Крысько Ц.В. (Васіль Вітка), Кудравец А.П., Ліпскі У.А., Лойка А.А., Лукашэнка А.Р., Лукша В.А., Лучанок І.М., Макаль П.М., Мальдзіс А.І., Навуменка І.Я., Някляеў У.П., Паўлаў У.А., Пісьмянкоў А.У., Прыходзька П.Ф., Пташнікаў І.М., Русакевіч У.В., Русецкі А.С., Сачанка Б.І., Сініцын Л.Г., Сіпакоў І.Д., Скурко Я.І. (Максім Танк), Стражаў В.І., Супрунчук В.П., Сушчэня Л.М., Сянько У.Л., Чыгір М.М., Чыгрынаў І.Г., Шабалін А.А., Шамякін І.П., Ярмошын У.В.**

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА ЗЯМЛІ АБЕТАВАНАЙ

Дзесяць прадстаўнікоў як дзяржаўных, так і недзяржаўных выдавецтваў вярнуліся з XVII Міжнароднага кірмашу, што праходзіў у ізраільскім горадзе Іерусаліме. З гэтай нагоды ў Міністэрстве культуры і друку адбылася прэс-канферэнцыя, у якой таксама бралі ўдзел намеснік міністра Станіслаў Нічыпаровіч і жонка пасла Ізраіля ў нашай краіне спадарыня Валк.

Кірмаш у Іерусаліме праводзіцца на працягу трыццацігоддзя раз на два гады і лічыцца адным з прэстыжных у свеце. Па сваёй значнасці знаходзіцца на другім месцы пасля Buchmesse ў Франкфурце-на-Майне. І таму прымаць у ім удзел беларускім кнігавыдаўцам — вялікі гонар. Усяго на кірмашы было прэзентавана 500 экземпляраў айчыннай паліграфічнай прадукцыі, трыццаць працэнтаў з якой было на беларускай мове.

Як паказаў вопыт кірмашу, мала хто нават з рускамоўнага насельніцтва Ізраіля (а гэта каля 800 тысяч чалавек) ведаюць пра такую краіну, як Беларусь, хаця яна і знаходзіцца ў цэнтры Еўропы. Дарэчы, з усіх краін СНД тут прысутнічалі толькі выдаўцы з Беларусі ды Расіі. Таму зразумелай была цікаўнасць з боку беларускай дыяспары да нашых падыходаў у выдавецкай справе ў новых, рынкавых варунках.

— Вялікі інтарэс у наведнікаў кірмашу, — паведаміў Мікалай Кавалеўскі, дырэктар выдавецтва "Беларусь", — выклікалі нашыя кнігі пра гісторыю Беларусі, мастацкія альбомы, даведачная і навучальная літаратура. Ізраільцяне былі ў захапленні ад літаратуры па медыцыне, у асноўным — нетрадыцыйнай. Акрамя сустрэч з выдаўцамі і гандлярамі вяліся перамовы з бібліятэкамі і музеямі. Але ўсё-ткі наш удзел у кірмашы — сур'ёзная заяўка Беларусі пра сябе на зямлі абетаванай. І гэта вельмі важна.

Як стала вядома на прэс-канферэнцыі з асобных дыялогаў выступоўцаў, у апошні час на сусветным рынку ўзняўся попыт на беларускую друкаваную прадукцыю. Але няма ў тым вялікай заслугі дзяржаўных структур. Безумоўна, бізнес ёсць бізнес, але ініцыятыва ў арганізацыі менавіта кніжнай справы павінна быць прэрагатывай дзяржавы. Бо абмены літаратурай спрыяюць духоўнаму ўзбагачэнню народаў.

Адзін з выступоўцаў, напрыклад, паведаміў аб такім факце: у камп'ютэрным банку дадзеных кірмашу была закладзена ўся інфармацыя аб беларускіх паліграфічных выданнях апошняга часу, што не магло не ўзрушыць як саміх выдаўцоў, так і спадарыню Валк. А гэта значыць, што беларуская кніга заваёўвае свайго чытача за мяжой "чамаданным метадам". А працей кажучы, літаратура набываецца на Беларусі з-за яе нізкага кошту ў параўнанні з сусветным узроўнем і нахабна вывозіцца з краіны. Таксама бізнес... Але з іншым адценнем. Як процістаяць такой канкурэнцыі дзяржаве?

Складаны ў сённяшніх неспрыяльных умовах і сам выхад на сусветны рынак. Нягледзячы на тое, што беларуская кніга з-за свайго кошту і можа быць канкурэнтаздольнай, але ісці на заключэнне кантрактаў нашы выдаўцы пакуль асцерагаюцца. Бо заказчыкі патрабуюць аператыўнасці, а, значыць, наперад пры падпісанні дакументаў хочуць ведаць кошт, наклад і г.д. А гэта немагчыма (дарэчы, спадарыня Валк паабяцала першых пяць кантрольных экземпляраў кніг перадаць дыпламатычнай поштай у Ізраіль).

Адным словам, "абмен візітоўкамі на кірмашы адбыўся", цяпер беларускія паліграфісты чакаюць прапаноў аб супрацоўніцтве...

**Наш кар.**

## БУДЗЕ ПОЛЕ, БУДУЦЬ І ПЕСНІ?...

Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай выступіў з ініцыятывай стварэння ў рэспубліцы спеўнага поля.

Як паведаміла карэспандэнту Белінфарма прэзідэнт Фонду беларуская пісьменніца Валянціна Коўтун, галоўная мэта стварэння спеўнага поля — захаванне нацыянальнай песеннай культуры, вяртанне песеных традыцый, распаўсюджванне духоўнай харавой музыкі і абарона яе ад агрэсіўнай музычнай прадукцыі. Паводле яе слоў, гэта будзе свята нацыі, адзінства і міратворчасці народа.

У падтрымку ідэі Фонду адгукнуліся практычна ва ўсіх абласцях рэспублікі. Ужо ўлетку пад знакам спеўнага поля ў мінскай вобласці пройдзе традыцыйны фестываль "Нарачанскія росы". Падобнае мерапрыемства адбудзецца і ў Азярышчанскім краі Гомельшчыны. Ідэю таксама падтрымалі і ў Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі, у Фондзе Сораса, у аб'яднанні беларусаў свету "Бацькаўшчына", у Фондзе нацыянальнага выратавання і ў іншых грамадскіх арганізацыях розных краінаў.

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ, БЕЛІНФАРМ**

## ДЗЕЛЯ ПАЗНАННЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Створана і ўжо зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі новае грамадскае аб'яднанне — Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор". Аб'яднанне паставіла перад сабою вельмі няпростую, сапраўды маштабную задачу — падрыхтаваць і выдаць асобнымі тамамі, у адзіным афармленні ўсё лепшае з літаратуры, што было створана на беларускай зямлі ад пачатку пісьменства і да нашых дзён. Гэтае унікальнае выданне ў яркіх мастацкіх вобразах і дакументальных матэрыялах раскрые перад чытачом усю тысячагадовую гісторыю Беларусі, паведае пра яе зямлю, народ, пра асаблівасці яго культуры, нацыянальнага характару, пра ягоныя набыткі і страты.

Управай Фонду падрыхтаваны падрабязны план-праспект "Беларускага кнігазбору". Выданне будзе складацца з дзвюх серый. Першую — "Мастацкая літаратура" — складуць кнігі пісьменнікаў старажытнасці (Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, А.Волана, М.Літвіна, Сімяона Полацкага і інш.), прадстаўнікоў шматмоўнай літаратуры Беларусі XVIII — XIX ст. (Ф.Багамольца, Ю.Нямцэвіча, А.Міцкевіча, Я.Чачота, Я.Баршчэўскага, Ю.Крашэўскага, А.Плуга, В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча і інш.), беларускіх пісьменнікаў XX ст., пачынаючы ад Ядвігіна Ш., А.Гаруна і заканчваючы лепшымі творамі сучаснай літаратуры, якія атрымалі шырокае грамадскае прызнанне. З другой серыі — "Гісторыка-літаратурныя помнікі" — чытачы атрымаюць кнігі вядомых і зусім забытых этнографаў, гісторыкаў, філосафаў, мовазнаўцаў Беларусі розных часоў.

Заснавалі МФ "Беларускі кнігазбор" вядомыя пісьменнікі, навукоўцы, выдаўцы, грамадскія дзеячы, прадпрымальнікі. Прэзідэнтам Фонду выбраны паэт, кандыдат гістарычных навук Кастусь Цвірка, сакратаром — метадыст Дома літаратара Генадзь Вінярскі. Усім, хто захоча прыняць удзел у вяртанні народу нашай літаратурнай спадчыны, дапамагчы ў выданні асобных тамоў "Беларускага кнігазбору", Фонд загадзя выказвае падзяку. *Адрас штаб-кватэры Фонду — Дом літаратара (220034, Мінск, Фрунзэ, 5), тэл. 36-09-09.*

**Тодар ТАНКЕВІЧ**



## ВІНШУЕМ ЛАЎРЭАТАЎ!

24 сакавіка ў межах шматлікіх мерапрыемстваў тыднёвай імпрэзы "Беларуская кніга — 94" адбылося ўручэнне прэмій выдавецтва "Мастацкая літаратура" аўтарам лепшых кніг мінулага года.

*На здымку: Алесь ЖЫНКІН, укладальнік зборніка твораў Язэпа Лёсіка (прэмія імя У.Караткевіча); Арсень ЛІС, аўтар зборніка гісторыка-літаратурных артыкулаў "Цяжкая дарога свабоды" (прэмія імя М.Гарэцкага); Алесь МАРЦІНОВІЧ, аўтар літаратуразнаўчай кнігі "Сувязі" (прэмія імя М.Багдановіча).*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**




Вінцэнт Бор

# Д'ЯБАЛЬСКАЯ ФАРТУНА, АБО ЯК ГЭТА ПАЧЫНАЛАСЯ

***У ТРАЎНІ 1995 года чалавецтва адзначае 50-я ўгодкі заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе. Мільёны чалавечых жыццяў забрала гэтая вайна. Не паддаюцца падліку людскія пакуты і гора, хаця гісторыкі і палітыкі не забываюць напамінаць пра гэта. А навукоўцы спрабуюць адшукаць прычыны яе развязвання. Відавочна, што тэма мінулай вайны будзе доўга хваляваць не толькі гісторыкаў ды мастакоў-творцаў, але і тых, хто пеpажыў і памятае гэтыя загадкавыя і пакручастыя 30-я і 40-я гады.***

***Усім хочацца ведаць праўдзівую гісторыю. Часам ад маладых людзей можна пачуць:***

***— Правадырам з задаткамі дыктатараў не падабаецца сядзець ціха, без актыўных учынкаў. Вось і дамовіліся...***

***А як было на самой справе?***

* * *

ЖНІВЕНЬ 39-га, здавалася, нічым не вызначаўся. Сяляне, як заўсёды ў такую пару, шчыравалі на палетках, уласных ды панскіх або калгасных. У мяшчан быў трохі інакшы рытм жыцця. Гэта дазваляла ім лепей арыентавацца ў тагачасных падзеях. А яны развіваліся хуткаплынна. Нават у вёсках іх прыкмячалі і задумваліся: што ж з гэтага ўсяго будзе?

Людзі ў асноўным прытрымліваліся думкі, што лёс еўрапейскага спакою не будзе парушаны — ён не будзе вырашацца без чыннага ўдзелу Масквы, а там не дапусцяць да ваеннага разбою. І ўсё ж на душы ў многіх было надта трывожна, асабліва ў Польшчы, на землях Заходняй Беларусі. Па сялянскай звычцы яны разважалі, што можа вайна, нібы тая цёмная хмара, пройдзе бокам і абміне мірную славянскую краіну:

*Мо збожжа ў полі не*
*сталочыць,*
*Не спаліць хаты перуном,*
*Мо змые пыл, зямлю*
*прамочыць —*
*І ўсё абыдзецца дабром.*

Аднак не абышлося, не абмінула. 1-га верасня 1939 года на світанні войскі гітлераўскага вермахта ў розных месцах перайшлі нямецка-польскую граніцу. Злучэнні паветраных сілаў таксама пачалі бамбіць вайсковыя аб'екты. Усе імкнуліся паслухаць навіны па радыё. Слухалі Баранавічы, Варшаву, Мінск... 2 верасня перадалі пра пасяджэнне нямецкага Рэйхстага, на якім выступіў кіраўнік дзяржавы Адольф Гітлер (сапраўднае прозвішча Шыкльгрубэр, 1889 — 1945). Закрануўшы "нямецка-савецкі пакт", ён заявіў, што Расія і Нямеччына кіруюцца на аснове дзвюх розных дактрынаў, і калі Расія не думае экспартаваць сваю дактрыну ў Нямеччыну (саветызацыя і камунізацыя — **В.М.**), дык дзве магутнейшыя краіны ў Еўропе не маюць падстаў быць ворагамі. Нямецкі правадыр запэўніваў, што абодва бакі абавязаліся кансультавацца і эканамічна супрацоўнічаць. Пакт быў ратыфікаваны і ў Берліне, і ў Маскве. Гітлер адзначаў, што з задавальненнем можа далучыцца да кожнага слова, якое сказаў народны камісар па замежных справах Вячаслаў Молатаў.

Правадыр Нямеччыны меў на ўвазе выступленне Молатава на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР 1-га склікання ад 31 жніўня, прысвечанае ратыфікацыі савецка-нямецкага дагавору аб ненападзе. Молатаў тады падкрэсліваў, што абавязак СССР думаць пра інтарэсы свайго народа і ён цвёрда перакананы, што інтарэсы савецкай дзяржавы супадаюць з інтарэсамі іншых краін. У Берліне гэты акцэнт добра разумелі і цанілі... Расхвальвалася празорлівасць Сталіна, які на XVIII партыйным з'ездзе папярэджваў аб правакатарах вайны, што хацелі ўцягнуць СССР у канфлікт з іншымі краінамі. Трэба прызнаць, даводзіў таварыш Молатаў, што ў нашай краіне былі блізарукія людзі, якія, захапіўшыся спрошчанай антыфашысцкай агітацыяй, забываліся аб правакацыйнай рабоце нашых ворагаў. І толькі дзякуючы таварышу Сталіну, які ўлічваў абставіны, яшчэ тады было пастаўлена пытанне пра магчымасць іншых, не варожых, а добрасуседскіх адносін паміж Нямеччынай і СССР. Цяпер бачна, распавядаў Молатаў, што ў Нямеччыне ўвогуле правільна зразумелі заявы таварыша Сталіна і зрабілі з гэтага практычныя высновы. (Адзначалася, што ў зале быў смех дэпутатаў.) А Молатаў працягваў: заключэнне савецка-нямецкага дагавору аб ненападзе сведчыць, што гістарычнае прадбачанне таварыша Сталіна бліскуча апраўдалася, савецка-нямецкі дагавор аб ненападзе кладзе канец варожасці паміж Нямеччынай і СССР. Мы за дружбу народаў...

У зале зноў чуліся бурныя працяглыя апладысменты.

Газета "Правда" ад 2 верасня актыўна асвятляла падзеі. У публікацыі "Гістарычная сесія Вярхоўнага Савета СССР" адзначалася, што савецкі ўрад мае адну мэту — забяспечыць мір у Еўропе, а таварыш Молатаў выкрыў спробу інтрыг правакатараў і падпальшчыкаў вайны з вычарпальнай паўнатой і яснасцю, раскрыў прычыны ілжывай гульні...

Пра сакрэтную змову правадыроў нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны і СССР ніхто, акрамя іх памагатых, не ведаў. Па-ранейшаму дыпламатычная сувязь паміж Берлінам і Масквою працавала кругласутачна.

Тэлеграма № 253 ад 3 верасня: **"Вельмі тэрмінова! Асабіста паслу. Зусім сакрэтна! Кіраўніку пасольства або яго прадстаўніку асабіста. Сакрэтна! Павінна быць расшыфравана асабіста ім! Зусім сакрэтна!**

**Мы, безумоўна, спадзяемся канчаткова разбіць польскую армію на працягу некалькіх тыдняў. Затым мы ўтрымаем пад ваеннай акупацыяй раёны, якія, як было ўстаноўлена ў Маскве, уваходзяць у нямецкую сферу ўплыву. Аднак зразумела, што па ваеннай мэтазгоднасці нам прыйдзецца затым дзейнічаць супраць польскіх ваенных сілаў, што будуць знаходзіцца на польскіх тэрыторыях, якія ўваходзяць у рускую сферу ўплыву. Калі ласка, абмяркуйце гэта з Молатавым неадкладна і паглядзіце, ці не палічыць Савецкі Саюз пажаданым, каб руская армія выступіла ў падыходзячы момант супраць польскіх сілаў у рускай сферы ўплыву і са свайго боку акупіравала гэтую тэрыторыю. Па нашых меркаваннях, гэта не толькі дапамагло б нам, але таксама, у адпаведнасці з маскоўскімі пагадненнямі, было б і ў савецкіх інтарэсах.**

**У сувязі з гэтым, калі ласка, высветліце, ці можам мы абмяркоўваць гэтае пытанне з савецкімі афіцэрамі, якія толькі што прыбылі сюды, і якой прыблізна будзе пазіцыя савецкага ўрада. Рыбентроп."**

У Маскве не марудзілі. 5 верасня 1939-га, 14 гадзін 30 хвілін. Пасол граф Шуленбург тэлеграфаваў, што Молатаў папрасіў яго сустрэцца з ім надоечы і перадаў адказ савецкага ўрада: "Мы згодны з вамі, што ў падыходзячы час нам будзе цалкам неабходна пачаць канкрэтныя дзеянні. Мы лічым, аднак, што гэты час яшчэ не надышоў... Празмерная паспешлівасць можа прынесці нам шкоду і садзейнічаць аб'яднанню нашых ворагаў. Мы разумеем, што ў ходзе аперацыі адзін з бакоў альбо абодва бакі могуць быць вымушаны часова перасекчы дэмаркацыйную лінію паміж сваімі сферамі ўплыву, але падобныя выпадкі не павінны пашкодзіць непасрэднай рэалізацыі накрэсленага плану."

Пачатак вайны паміж Нямеччынай і Польшчай моцна паўплываў на грамадскую думку ў СССР. Узнікла трывога, што дзяржава будзе ўцягнута ў бойню. Многім прыгадалася нямецкая магутнасць падчас Першай сусветнай вайны...

9-га верасня. Было ўжо за поўнач, калі ў Берліне прынялі тэлефанаграму: **"Я атрымаў Ваша паведамленне аб тым, што нямецкія войскі ўвайшлі ў Варшаву. Калі ласка, перадайце мае віншаванні ўраду Нямецкай імперыі. Молатаў".**

Адначасова імперскі міністр замежных спраў Рыбентроп давёў да ведама свайго пасла ў Маскве: **"Мы, канешне ж, згодны з савецкім урадам, што каштоўнасць перамоў, дасягнутых у Маскве, не змяншаецца расшырэннем ваенных дзеянняў мясцовага характару. Мы павінны разграміць і разгромім польскую армію ўсюды, дзе толькі яе сустрэнем. У маскоўскіх пагадненнях нічога ад гэтага не мяняецца. Развіццё ваенных дзеянняў нават пераўзыходзіць нашы чаканні. Па ўсіх паказчыках польская армія знаходзіцца больш ці менш у стане немачы. Ва ўсіх выпадках я лічыў бы неадкладным аднаўленне Вашых перамоў з Молатавым адносна савецкай ваеннай інтэрвенцыі ў Польшчу. Мажліва, выклік рускага вайсковага аташэ ў Маскву паказвае, што там рыхтуецца рашэнне. Таму прасіў бы Вас у належнай форме яшчэ раз паразумецца на гэтую тэму з Молатавым і тэлеграфаваць пра вынікі".**

У той жа дзень пасол інфармаваў сваё ведамства ў Берліне: "Молатаў заявіў мне сёння а 15-й гадзіне, што савецкія ваенныя дзеянні пачнуцца на працягу бліжэйшых некалькіх дзён. Выклік вайсковага аташэ ў Маскву быў сапраўды з гэтым звязаны. Будуць таксама прызваныя шматлікія рэзервісты."

На наступны дзень граф Шуленбург паведамляў імперскаму міністру замежных спраў: на сустрэчы а 16-й гадзіне (10 верасня) Молатаў змяніў учарашнюю заяву, сказаўшы, што савецкі ўрад быў заспеты знянацку нечакана хуткімі нямецкімі ваеннымі поспехамі. Спасылаючыся на ранейшую дамоўленасць, савецкая армія разлічвала на некалькі тыдняў, якія цяпер ужо скараціліся да некалькіх дзён. Савецкія вайсковыя ўлады аказаліся ў складаным становішчы, таму яны патрабуюць два-тры дні дзеля падрыхтоўкі. Ужо мабілізавана больш як тры мільёны чалавек...

Пасол зазначыў, што яму давялося падрабязна тлумачыць, наколькі зараз важныя хуткія дзеянні Чырвонай Арміі. Ён паўтарыў, што робіцца ўсё магчымае дзеля паскарэння падзей. (У Шуленбурга нават склалася ўражанне, што Молатаў абяцаў больш, чым ад Чырвонай Арміі трэба было чакаць.)

Абмяркоўваючы палітычны бок пытання, Молатаў сказаў, што **савецкі ўрад мае намер выкарыстаць далейшае прасоўванне нямецкіх армій і заявіць, што Польшча развальваецца на кавалкі і што з прычыны гэтага Савецкі Саюз павінен прыйсці на дапамогу беларусам і ўкраінцам, якім пагражае Нямеччына. Такая матывіроўка будзе спрыяць складванню ўяўленняў пра інтэрвенцыю Савецкага Саюза як прыстойную ў вачах мас і дасць яму мажлівасць не выглядаць агрэсарам.**

Праз некалькі дзён Рыбентроп паведаміў нямецкаму паслу ў Маскве, што як толькі вызначыцца дакладны зыход вялікай бітвы за Польшчу, нямецкі ўрад будзе ў стане даць Чырвонай Арміі інфармацыю, якую яна прасіла, — пра шматлікія воінскія часці польскага войска.

14 верасня ўвечары Шуленбург інфармаваў сваё ведамства, што Молатаў паклікаў яго да сябе і заявіў: Чырвоная Армія дасягнула стану гатоўнасці хутчэй, чым гэтага чакалася. Савецкія дзеянні могуць пачацца раней прызначанага тэрміну. Таму, улічваючы палітычную матывіроўку савецкай акцыі, было б вельмі важна не пачынаць дзейнічаць да таго, як падзе адміністратыўны цэнтр Польшчы — Варшава. У сувязі з гэтым Молатаў просіць, каб яму як найдакладней паведамілі, калі пачнецца захоп Варшавы.

Праз дзень ад імя імперскага міністра Рыбентропа пасол Шуленбург інфармаваў Молатава аб сітуацыі на нямецка-польскім фронце: **"Знішчэнне польскага войска... завяршаецца. Мы разлічваем заняць Варшаву на працягу бліжэйшых некалькі дзён".** І далей: **"Мы заключылі, што ў ваенных адносінах савецкі ўрад падрыхтаваны і што ён намераны пачаць свае аперацыі ўжо зараз. Мы вітаем гэта. Савецкі ўрад, такім чынам, вызваліць нас ад неабходнасці знішчыць астаткі польскай арміі, пераследуючы іх да самай рускай граніцы. Апрача таго, калі не будзе пачата руская інтэрвенцыя, непазбежна паўстане пытанне, ці не створыцца ў рэгіёне, які ляжыць на ўсход ад нямецкай зоны ўплыву, палітычны вакуум".**

У тэлеграме з Берліна Савецкаму Саюзу прапаноўвалася апублікаваць сумесны камунікат наступнага зместу: **"З прычыны поўнага распаду існаваўшай раней у Польшчы формы праўлення, Імперскі Урад і Урад СССР палічылі неабходным пакласці канец нецярпімаму далей палітычнаму і эканамічнаму становішчу, існуючаму на польскіх тэрыторыях. Яны лічаць сваім агульным абавязкам аднаўленне на гэтых тэрыторыях, якія ўяўляюць для іх (Нямеччыны і СССР — В.Б.) натуральную цікавасць, міру і спакою і ўстанаўлення там новага парадку шляхам вызначэння натуральных межаў і стварэння жыццядзейных эканамічных інстытутаў".**

З мэтай неабходнага каардынавання ваенных аперацый прапаноўвалася, каб прадстаўнікі абодвух урадаў, а таксама нямецкія і рускія афіцэры правялі сустрэчу для прыняцця неабходных крокаў, дзеля чаго меркавалася склікаць нараду ў Беластоку.

У той жа дзень, 16 верасня, граф Шуленбург дакладваў імперскаму міністру, што а 18-й гадзіне сустракаўся з Молатавым, які заявіў, што "ваенная інтэрвенцыя Савецкага Саюза адбудзецца, верагодна, заўтра альбо паслязаўтра, Сталін зараз кансультуецца з ваеннымі кіраўнікамі, і гэтым вечарам ён назаве дзень і гадзіну савецкага наступлення".

***

СТАЛІН, Молатаў і Варашылаў гэтай ноччу не спалі. Далёка за поўнач савецкі правадыр у прысутнасці верных паплечнікаў прыняў нямецкага пасла і сказаў, што Чырвоная Армія перасячэ савецка-польскую граніцу а 6 гадзіне раніцы на ўсёй яе працягласці ад Полацка да Камянца-Падольскага.

Было 2 гадзіны ночы... Загараўся новы дзень.

17 верасня 1939 года. Граф Шуленбург да дробязяў абдумваў сціслы змест тэлефанаграмы, у якой інфармаваў сваіх гаспадароў: **"Каб пазбегнуць інцыдэнтаў, Сталін спешна просіць нас прасачыць за тым, каб нямецкія самалёты, пачынаючы з сённяшняга дня, не заляталі на ўсход ад лініі Беласток — Брэст-Літоўск — Лембэрг (Львоў — В.Б.). Савецкія самалёты пачнуць сёння бамбіць раён усходней Лембэрга..."**

Калі войскі Чырвонай Арміі перасеклі савецка-польскую мяжу, 17 верасня 1939 года народны камісар замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў выклікаў да сябе польскага пасла ў Маскве В.Гжыбоўскага і ўручыў яму ноту, у якой канстатавалася аб уступленні савецкіх ваенных падраздзяленняў на землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Збянтэжаны ад нечаканасці такой навіны, пасол не стрымаўся:

— Гэта ж нож у спіну Польшчы, якая змагаецца супраць Нямеччыны за вольнасць славян...

Лёс Польшчы суседнімі дзяржавамі быў вырашаны загадзя — яшчэ 23 жніўня ў Маскве. Падрыхтавацца да абароны як след яна не мела часу. Аднак паспела правесці мабілізацыю рэзервістаў — польская армія на выпадак вайны мела адзін мільён асабовага складу. Сярод салдат налічвалася больш сотні тысяч беларусаў. Шмат іх служыла ў Плоцку, Быдгашчы, Модліне. Гэта былі някепскія жаўнеры! Нямала трапіла ў марскую пяхоту. Служылі яны і ў Брэсцкай цытадэлі. У цяжкую хвіліну хлопцы з-над Буга, Нёмана, Прыпяці і Ясельды не гаварылі, што суседзі-славяне не хочуць прызнаць аднаўленне дзяржаўнасці беларусаў, а моўчкі ішлі абараняць Айчыну разам з палякамі, украінцамі, славакамі, гэбраямі і іншымі нацыянальнымі меншасцямі.

Змаганне доўжылася больш месяца — з 1-га верасня па 5 кастрычніка 1939 года. Давялося весці зацятую бітву з пераўзыходзячымі сіламі праціўніка пры абароне Памор'я, за Вэстэрплятэ, Гданьск, Гдыню. Яны ваявалі на Познаньшчыне, пад Бзурай, баранілі Варшаву. Усюды жаўнеры польскага войска, якога б паходжання яны ні былі, не здраджвалі вайсковай прысязе, паказвалі сваю адданасць Айчыне, баранілі яе.

"Вайна была Айчыннай для кожнага паасобку і для ўсіх разам", — успамінаў удзельнік гэтай вераснёўскай кампаніі Янка Брыль, сёння шырока вядомы беларускі пісьменнік. Яго прызвалі на тэрміновую службу ў Польскае войска як падданага, жыхара Заходняй Беларусі.

"Служыў у батальёнах марской пяхоты, — распавядае Іван Антонавіч, — куды дабіралі хлопцаў па росту, камплекцыі, і набор на тры чвэрці складаўся з беларусаў. Ім давялося трымаць абарону з боку Гданьска. Немцы атакавалі нас на досвітку 1 верасня. Мы адбівалі атаку за атакай, сядзелі пад артагнём, а ўжо 13 верасня, перакінутыя за заходнюю ўскраіну Гдыні, атакавалі самі і адагналі ворага на восем кіламетраў. Аднак, спыніўшыся на ўзгорках, ён абклаў нас такім агнём, што ад майго штурмавога кулямётнага ўзвода засталося некалькі чалавек. Удвух з таварышам мы выносілі трэцяга, параненага, у палявы шпіталь. Там і ўбачыў я ўпершыню найбольшы жах вайны: параненых, паміраючых людзей, якія прымалі сваю долю хто крыкам, хто моўчкі; убачыў чаны, поўныя крыві, рук і ног... Я не бачыў пакут і смерці ворага — бачыў пакуты сваіх."

Паслухаем рэзервіста падпаручніка 76-га пяхотнага палка Пятра Бітэля, настаўніка народнай школы з Наваградчыны:

— Для палякаў, як і для беларусаў, гэтая страшная людская бойня ад Балтыкі аж па Карпаты пачалася з першага вераснёўскага світанку паводле жнівеньскага сцэнарыя, які быў узгоднены панам Рыбентропам у Маскве з таварышам Сталіным. Тады мы многага не ведалі, толькі пасля зразумелі, што азначае міралюбівая палітыка вялікіх правадыроў!.. Гэта жахліва, што д'ябальская фартуна была добразычлівай да іх. Я ў гэтым добра пераканаўся. Успрыманне тагачаснай трагедыі народаў я паспрабаваў выказаць у вершаванай аповесці "Дзве вайны". Чытач сёння павінен зразумець, што правадыры заўсёды натхнялі адзін аднаго на авантурныя ўчынкі. А тут такі момант, як жа яго ўпусціць? Класічны імперскі падыход. З сардэчнага бласлаўлення Джугашвілі гітлераўцы нялітасціва цяснілі абаронцаў незалежнай славянскай краіны. Іх дасканала падрыхтаваная ваенная машына пад грукат танкаў, гарматаў і авіяцыі крышыла,

змятала і гнала ўсё на сваім шляху. Стаялі стойка. Але сілы былі няроўныя. Мы адступалі, былі ўжо дзесьці каля Брэста. Ішлі далей...

Ішлі, хоць добра разумелі, што вельмі дрэнныя нашы справы...

***

ГІТЛЕРАЎСКАЕ камандаванне для нападу на Польшчу засяродзіла ля мяжы больш як 70 дывізій, прыкладна паўтарамільённую армію, у якой налічвалася 3,5 тысячы танкаў і каля 3 тысяч самалётаў, шмат артылерыі, матарызаваных вайсковых часцей. 30 жніўня нямецкія групоўкі "Поўнач" і "Поўдзень" былі ўжо напагатове. У дадатак быў падрыхтаваны магутны марскі і паветраны флот.

З польскага боку галоўным камандаваннем арміі таксама было разгорнута каля 70 дывізій і брыгад. З іх на мяжы з Нямеччынай, Усходняй Прусіяй і Пратэктаратам Багемія і Маравія сканцэнтравалася ў першым эшалоне 40 дывізій і брыгад, якія размяшчаліся групамі, прыкладна роўнымі па сілах, і 15 дывізій і брыгад трымалася ў рэзерве ў раёне Варшавы, Лодзі і Радама, а 15 дывізій заставалася на польска-савецкай мяжы. І ўсюды сярод іх, у тым ліку ў авіяцыі і марскім флоце, былі беларусы.

Ім усім прыйшлося адчуць раптоўны і імклівы наступ гітлераўскіх наземных войскаў, якім спадарожнічалі разбуральныя бомбавыя ўдары нямецкай авіяцыі па важнейшых прамысловых цэнтрах, аэрадромах, іншых ваенных аб'ектах і населеных пунктах. Зачэпкай для агрэсіўнай акцыі паслужыў быццам бы напад, учынены польскімі жаўнерамі на памежную станцыю Гляйвіц, на самой справе інсцэніраваны самімі гітлераўцамі, пераапранутымі ў польскую вайсковую форму.

На другі-трэці дзень вайны польская памежная абарона месцамі была прарвана, але галоўны ўдар кожнае вайсковае злучэнне праціўніка наносіла згодна з пастаўленымі задачамі. Групоўка "Поўдзень" павінна была захапіць важнейшыя прамысловыя цэнтры, перадусім Верхні Сьлёнск, කракаўскі і Лодзінскі раёны, затым развіваць наступ на Варшаву і на Брэст. 6-га верасня быў захоплены прамысловы раён з Катавіцамі і Кракавам, а 8-га верасня бронетанкавыя і матарызаваныя часці гэтай групоўкі вырваліся наперад, прарваліся да прадмесцяў Варшавы і ў некалькіх месцах выйшлі да Віслы (на прамежку Варшава — Сандомеж).

4-я і 3-я нямецкія арміі, што ўваходзілі ў групоўку "Поўнач", рухаліся на Быдгашч і 5-га верасня ва ўпартай барацьбе авалодалі ім. Такім чынам польскія войскі ў Памор'і і Гдыні аказаліся адрэзанымі, але яны па-ранейшаму вялі зацятую барацьбу з непрыяцелем. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне, частка групоўкі "Поўнач" працягвала наступ на поўдзень удоўж Віслы і 11-га верасня ў раёне Кутна аб'ядналася з часцямі 8-й арміі, якія рухаліся са Сьлёнска на ўсход. У выніку завяршылася акружэнне буйнейшай — да 200 тысяч асоб — групоўкі Польскага войска.

Так на другім тыдні абарончай вайны польская армія вымушана была распасціся на асобныя групы. Да таго ж 16 верасня праціўніку ўдалося завяршыць атачэнне Варшавы са стотысячным вайсковым гарнізонам. Сталіца адмовілася капітуляваць і пад бомбавымі ўдарамі варожай авіяцыі працягвала барацьбу аж да 27 верасня. Вялікую мужнасць і гераізм разам з жыхарамі сталіцы праявіў беларускі генерал Станіслаў Булак-Балаховіч, які аператыўна сфарміраваў атрад з 300 асоб-добраахвотнікаў і стрымліваў наступ танкавых атак ворага на працягу трох тыдняў. 27 верасня знясіленыя варшавяне ўжо больш не супраціўляліся. Аднак варожыя войскі ўвайшлі ў горад толькі 29 верасня.

За 35 дзён абарончага змагання на полі бітваў пачатку Другой сусветнай вайны загінула 133 тысячы жаўнераў і афіцэраў Польскага войска, сярод якіх — звыш 10 тысяч беларусаў. 70 тысяч чалавек трапілі ў нямецкі палон. У наступальных аперацыях бітваў за Польшчу склалі свае галовы 16 343 асобы гітлераўскага вермахта.

Такім быў толькі пачатак вялікай людской трагедыі ў Еўропе...

# СУСТРЭЧА НА МОСЦЕ ПРЫМІРЭННЯ

***Працягваем публікацыю чытацкіх лістоў — водгукаў на анкету мінскага Гётэ-цэнтра (1. Што Вы хацелі б ведаць пра сталіцу Германіі? 2. Чаму Вас цікавіць менавіта гэтая інфармацыя?). Як бачна, гаворка пераходзіць за межы тэмы "Экскурсія па Берліне". Людзей цікавіць пра Германію ўсё. І не дзіўна, столькі гадоў мы жылі за "жалезнай заслонай"...***

## ЯК ЖЫВУЦЬ МАЕ АДНАГОДКІ?

Я наведала Нямеччыну з экскурсіяй. Мне вельмі спадабалася гэтая вандроўка. Я даведался шмат новага і цікавага пра гэтую краіну, хаця сёння аб ёй у нас шмат пішуць, паказваюць па тэлебачанні і да т.п.

Немцы вельмі шануюць і захоўваюць сваю культуру, сваё мінулае. Тут шмат архітэктурных помнікаў розных эпох. Я хацела б больш даведацца пра сучасную нямецкую моладзь: якія ў яе праблемы, мары, як маладыя людзі бавяць свой вольны час. Ці часта яны наведваюць тэатры? Ці могуць дазволіць сабе вандроўку ў замежжа, на экскурсію? Ці існуе ў Нямеччыне якая-небудзь маладзёжная арганізацыя, якая б аб'ядноўвала моладзь паводле інтарэсаў і мэтаў? Ці атрымліваюць нямецкія студэнты стыпендыю і якія гэта сумы? Ці хапае ім на жыццё? Ці прытрымліваюцца нямецкія дзяўчаты сучаснай моды? Апранаюць яны больш ахвотна рэчы айчыннай вытворчасці ці імпартныя? Вырабы якіх мадэльераў яны больш любяць: нямецкіх ці французскіх? Што ведае нямецкая моладзь пра сваіх равеснікаў з Беларусі? Мне было б цікава даведацца, што думаюць, як жывуць, што робяць мае равеснікі за мяжой.

**Вольга КРАТОВІЧ, студэнтка БелАМ**

* * *

З якога часу існуе Берлінская Акадэмія мастацтваў? Ці платнае навучанне ў ёй? На што, на якія плыні (ці якія ўзоры) арыентуюцца выкладчыкі Акадэміі ў навучальным працэсе?

Які заробак у прафесара, выкладчыка Берлінскай Акадэміі мастацтваў?

Ці ёсць у ліку студэнтаў Акадэміі мастацтваў іншаземцы і ці шмат сярод іх былых грамадзян СССР? А як да іх ставяцца?

Гэтыя пытанні ўзніклі ў сувязі з тым, што я сам студэнт БелАМ і мяне цікавіць інфармацыя аб іншых акадэміях.

**Я.ГАЛУЗА, студэнт БелАМ**



Фота Генадзя ЖЫНКОВА

## НЕНАВІДЖУ ФАШЫЗМ І КАМУНІЗМ

Шаноўная "Культура"!

Стэрэатыпы — падводныя рыфы жыцця. Пра Германію, як і большасць равеснікаў, я даведаўся не з казак братоў Грым, а з аповядаў блізкіх пра недалёкую яшчэ тады ў 50-я гады вайну. Магу сказаць з упэўненасцю, што ў гэтых успамінах была горыч, але не было нянавісці да народа. Была праўда пра рэдкія ў той страшны час праявы чалавечнасці. Уначы ў нашу хату прыйшлі два маладыя унтэрафіцэры і папярэдзілі бабулю: "Матка, заўтра хавай дзяцей, будуць увозіць у Германію". Калі пасля аблавы ў лесе эсэсаўцы паставілі жыхароў нашай ускраіны на расстрэл, з калоны адступаючых войскаў выехаў афіцэр-вершнік і загадаў не страляць.

Была праўда пра "вызваленне" бацькі з канцлагера Штутгоф, што ў паўночнай Польшчы. Французскія, бельгійскія, італьянскія вязні з песнямі вярталіся дадому, дзе іх сустракалі як герояў. Савецкіх пагналі ў Горкаўскі філіял ГУЛАГа на новыя пакуты, грузінскі канвой здзекаваўся і забіваў кожны дзень. Пра гэта, пра калектывізацыю, трэба было маўчаць доўгія гады. У маўчанні гартавалася нянавісць да фашызму і камунізму.

У маі 1989 года я не ведаў пра расклад палітычных сіл, але ў Лейпцыгу самі ногі панеслі ў Іаганескірхэ, царкву-цэнтр дэмакратычнай апазіцыі. Вечарам пераконваў сваіх нямецкіх сяброў: "У вас хутка адбудзецца рэвалюцыя, гэта адчуваецца ў паветры". — "Не-е, што ты, Хонэкер вечны!" — не верылі яны. Тупым "не" паўстаў Берлінскі мур. Але Гасподзь даў народу сілу і веру, праз некалькі месяцаў пачварная сістэма рухнула. У Еўропе канчаткова зацвердзілася новая маральная сітуацыя, індыкатарам якой з'яўляецца мера каштоўнасці чалавечага жыцця. Калі падчас гуманітарнай акцыі вермахта ў Камбоджы загінуў малады ваенны медык, нямецкае грамадства ўспрыняло гэта як нацыянальную трагедыю. Армія "пераможцаў" заваліла трупамі маленькую каўказскую краіну, а расейскае грамадства не можа пракінуцца ад ачмурэння.

У нашай сям'і ведалі і шанавалі нямецкую мову. Не выпадковым быў мой выбар, самым светлым момантам у аўтабіяграфіі лічу перыяд даследавання творчасці майстроў нямецкага Рэнесансу Альбрэхта Альтдорфера і Амброзіўса Гальбейна. А многія калегі ўжо забыліся, што некалі менавіта нямецкая мова была мовай мастацтвазнаўства. Зараз, працуючы над перакладам твораў буйнейшага гісторыка мастацтва XX стагоддзя Генрыха Вёльфліна, хочацца нагадаць пра гэта.

На старонках "Культуры" спадзяюся пазнаёміцца з мастацкімі музеямі Заходняга Берліна, да апошняга часу недаступнымі для нас. А ў сувязі з 50-й гадавінай заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе хачу таксама выказаць даўнія думкі. Варта гісторыкам і літаратарам выдаць зборнік лістоў з фронту нямецкіх і беларускіх салдат, удзельнікаў трагедыі. Варта на вышэйшым дзяржаўным узроўні вызначыць па-хрысціянску лёс нямецкіх ваенных могілак, дзе тыя ж самыя, што і ў Курапатах, вандалы раскідваюць па лесе разбітыя чарапы. Варта правесці ў Беларусі маштабную выставу тагачаснага нямецкага афіцыйнага мастацтва. Гледачы ўбачаць вельмі знаёмую па сталіншчыне вобразнасць і фармальны лад (як там у класіка — "...близнецы-братья!").

**Валеры БУЙВАЛ, мастацтвазнаўца, перакладчык**

## МНЕ ПАШЧАСЦІЛА НАВЕДАЦЬ БЕРЛІН...

Паважаная рэдакцыя!

Ваша новая ініцыятыва — анкета пра Берлін — вельмі актуальная і доўгачаканая. Пагадзіцеся, што такія сімвалы горада, як Брандэнбургская Брама, Рэйхстаг, Тэлевізійная вежа, вядомыя, мабыць, усім, вырваныя з кантэксту праўдзівай гісторыі і доўгі час разгляданыя толькі пад пэўным ідэалагічным ракурсам, зараз мала пра што могуць сведчыць. А гэты горад, вельмі разнастайны, самы блізкі ў параўнанні з іншымі заходнееўрапейскімі сталіцамі буйных дзяржаў, так і застаецца белай плямай, таямніцай. Шкада, калі гэтае няведанне і далей не скранецца з нулявой кропкі.

Мне пашчасціла наведаць Берлін у мінулым годзе, прыадчыніць для сябе яго каштоўнасці. Можна многа распавядаць пра яго з захапленнем, нават з сентыментальнаю слязой. Але не хацелася б навязваць іншым сваіх асабістых адносінаў. Недаравальна іншае: калі інфармацыя, назапашаная ў гэтым горадзе пра яго гісторыю, культурныя, эканамічныя ды іншыя здабыткі, пра ўсю Нямеччыну, якой Берлін з'яўляецца як бы асаблівай квінтэсенцыяй, пра ўвесь свет, што дапытлівыя немцы даследавалі як ніхто, мабыць, грунтоўна і сумленна, сканцэнтраваўшы ў сталічных зборах, не дойдзе да жыхароў Мінска, ды іншых мясцін Беларусі. Пры нашым інфармацыйным голадзе гэта быў бы вялікі шанс самай хуткай і якаснай еўрапеізацыі мыслення, поглядаў на жыццё, развітання раз і назаўсёды з навязанымі і шкоднымі ўяўленнямі пра тое, што нам дазволена і недазволена ведаць, каб "толькі не згубіць правінцыйнае абмежаванасці". І дапамагчы, падзяліцца з намі сваімі здабыткамі берлінцы, пэўна, здолеюць. Бо так ужо водзіцца ў цывілізаваным, хрысціянскім свеце: хто мае багацце, той не можа яго захоўваць выключна для ўласнага карыстання, а далучае да яго іншых. Ад гэтага яно толькі выйграе, становіцца значнейшым, асаблівa, калі рэч ідзе пра духоўнае багацце.

Таму, не камплексуючы "быць задужа патрабавальным", наважваюся прапанаваць па максімальных крытэрыях, што, на маю думку, неабходна найперш чакаць з нямецкага боку на тэму "Берлін". На сённяшні дзень імглу невядомасці могуць развеяць шматсерыйныя дакументальныя фільмы пра Берлін XX стагоддзя, балазе што нямецкая кінахроніка там паўстала на пачатку 20-х гадоў і ніколі не спыняла сваёй шматфіксатарскай аператыўнасці. Мастацкі фільм, які ствараўся ў Берліне і пра Берлін, таксама варты бліжэйшага знаёмства, прыгадваючы пры гэтым незабыўную Марлен Дзітрых, фільмы-шэдэўры мінулых дзесяцігоддзяў "Пад мастамі", "Неба над Берлінам" і інш.

Берлін — адна з вялікіх музейных сталіц мастацтва, дзе сканцэнтраваныя выяўленчыя скарбы Нямеччыны і іншых краін амаль усяго свету. Ажно дзве Нацыянальныя галерэі, апроч таго дзесяткі калекцый, дзе — сучаснае, старажытнае, усходняе, заходняе мастацтва. Усё немагчыма прагледзець нават за працяглы час. Вельмі складана для Мінска прыняць хоць якую буйную экспазіцыю — няма адлаведнага музейнага памяшкання. Але кніжныя выставы, прысвечаныя музейным калекцыям, сталі б вялікім культурным святам для нас. У 75-гадовы юбілей віцебскага УНОВИСа (што азначае сцвярджэнне новага мастацтва на Беларусі) выстава з берлінскага музея БАЎХАЎЗ (па сутнасці архіўнага накірунку) праліла б святло на мастацкія творчыя сувязі наватараў з Беларусі і Нямеччыны.

Берлін — кніжны горад. У яго літаратурнае мора можна "паглыбіцца з галавой". Кнігі па ўсіх галінах ведаў, самых лепшых тэхнічных, выдавецкіх і інфармацыйных гатункаў для звышразборлівых кнігаманаў. Здаецца, няма праблемы, па якой бы не была выдадзеная літаратура на нямецкай мове на ўзроўні апошніх фактаў, адкрыццяў, патрабаванняў. Гэтай сустрэчы, акурат, нам зараз вельмі нестае.

Ведаючы пра Брандэнбургскую Браму, трэба мець уяўленне і пра ўсе іншыя берлінскія помнікі архітэктуры мінулых стагоддзяў і сучасных, што паўсталі ў пасляваенны час. Пасля разбурэння берлінскага муру нарадзілася задача ўпарадкавання гарадскога цэнтра сталіцы. Ёсць шмат цікавых урбаністычных праектаў, пра якія нам самы час даведацца. Бо ў Мінску не менш архітэктурных праблем, якія яшчэ не вырашаныя. Выстава з Берліна па актуальнай архітэктурнай праблематыцы з'явілася б узорным прыкладам.

Між іншым, у самым цэнтры Берліна — Заалагічны сад, дзе жывуць птушкі і звяры з усіх кантынентаў. Нават у самыя цяжкія часы берлінцы рупіліся пра добрыя ўмовы іх утрымання. А сёння — гэта сапраўдны шэдэўр чалавечай увагі да нашых "малодшых братоў". Сродкамі відэафільмаў, у іншай даведаснай форме можна было б перажыць небывалыя эмоцыі ад сустрэчы з "Zoo".

Берлінскі каларыт ствараюць і самі берлінцы, вельмі сціплыя і прыстойныя. Сустрэчы з моладдзю, навукоўцамі, мастакамі, іншымі спецыялістамі маглі б праводзіцца ў кантэксце фестываляў, выставаў, вернісажаў, конкурсаў і іншых імпрэз з вялікай узаемнай карысцю.

Гэта тое, што неабходна звязваць з пачаткам адкрыцця Берліна. Бо потым, я не сумняваюся, будуць паўставаць усё новыя і новыя ідэі, каб гэты горад для кожнага беларуса стаўся па-свойму блізкім і заёмным.

**Яўген ШУНЕЙКА, старшы выкладчык Беларускай акадэміі**

КАНТРАМАРКА

# ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ "БОМЖ"-ТЭАТРА

***Годам свайго нараджэння яны лічаць васьмідзесяты. Значыцца, сёння ім ужо пятнаццаць, ці, можа, — яшчэ пятнаццаць? А ўвогуле, якім чынам можна вызначыць сталасць творчага калектыву? На мой погляд, гады тут не маюць вызначальнага значэння і не па іх трэба ўзносіць, ушаноўваць...***

***Яны лічаць сябе сталымі, падсумоўваючы вынікі сваёй самарэалізацыі праз творчасць. І мовай дачыненняў паразумення з гледачамі яны абралі рух, пластыку, жэсты. Адсюль у калектыву і назва адпаведная: Тэатр-студыя пантамімы і клаунады "ЖЭСТ".***

АДРАЗУ нагадаю: не трэба блытаць "Жэст" з "Ліцадзеямі" ці "Маскамі-шоу". Выкарыстоўваючы быццам бы аднолькавыя сцэнічныя прыёмы, кожны з іх імкнецца да розных мэтаў і закладвае ў свае пастаноўкі асаблівы эмацыйны запал. Такім чынам, "Жэст" не прытрымліваецца нейкай традыцыі, запазычанай у славутых калег. Яны нікога ніколі не калькавалі, хаця такія абвінавачванні ў свой адрас жэстаўцы чулі ад людзей, далёкіх ад тэатра і недасведчаных у мастацтве. Так ужо здарылася, што "Жэст" шырока вядомы і карыстаецца вялікай папулярнасцю па-за межамі краіны. У які ўжо раз мы сутыкаемся з сур'ёзнай праблемай, калі айчынныя творчыя калектывы, што пасяхова прадстаўляюць Беларусь у замежжы, амаль не знаходзяць сабе месца і падтрымкі на сваёй роднай глебе.







... "Жэст" утварыўся пры тагачасным Інстытуце культуры на базе адной са студэнцкіх груп. Колькасны склад трупы на працягу гадоў, бывала, мяняўся. Дзесяць, пятнаццаць чалавек... Але з самага першага дня нязменным заставалася адно: жаданне стварыць тэатр, які стаўся б домам, сям'ёй для ягоных артыстаў. Зараз у трупе сем чалавек плюс адзін тэхнік. Заснавальнікам, кіраўнікам, сцэнарыстам, акцёрам быў і ёсць Вячаслаў Іназемцаў. Разам з ім з самага пачатку — Галіна Яроміна, Таццяна Цурко, Алена Сівякова. Алена прыйшла ў студыю, калі вучылася ў пятым класе. Дакладней, яе прывялі за ручку маленькай, хударлявай дзяўчынкай пасля адной з імпрэз, якую ладзіў Слава ў Ленінай школе. Прывялі і сказалі: "Глядзі, гэта не дзяўчо, а знаходка!" Такім чынам, Лена зрабілася мастаком-мадэльерам усіх сцэнічных касцюмаў "Жэста". З цягам часу ў яе абудзіўся талент актрысы, і цяпер яна задзейнічана ў адным са спектакляў.

Яны не вядуць падліку сваіх выступленняў. Мабыць, таму, што на сцэну выходзяць нерэгулярна. Адным словам, рэдка. Месяцамі, бывае, не з'яўляюцца перад сталічнымі гледачамі, самы вялікі перапынак у творчасці — пачатак 90-х. Паўтара гады ніхто пра іх нічога не чуў. Існуючы пятнаццаць гадоў, "Жэст" дагэтуль не мае сваёй уласнай сцэнічнай пляцоўкі. Тэатр-"бомж", тэатр на птушыных правах... Але, нягледзячы на гэта, час ад часу яны ўзбуджаюць сваімі новымі знаходкамі як айчынную (на жаль, вельмі нешматлікую), так і замежную публіку. У жэстаўцаў ёсць добрыя кантакты з прыватным тэатрам, што на Юбілейнай плошчы. Але адносіны гэтыя хісткія, бо тыя самі арандуюць памяшканне і нярэдка канфліктуюць з адміністрацыяй Дома мод.

ФІНАНСАВЫЯ праблемы? А хто з імі не сутыкаўся? Але пра гэта — далей. Хлопцы і дзяўчаты з "Жэста" арыентуюцца на рэпетыцыйна-лабараторную працу, а гэта значыць, што без сваёй сцэны — нікуды... Трэба працаваць у пастаянным руху па пяцьшэсць гадзін на дзень, бо гэта з'яўляецца асновай рэпрыз і спектакляў.

Зноў жа з-за памяшкання акцёры пайшлі на працу ў ДК НВА "Інтэграл", дзе яны дадаткова атрымліваюць па палове стаўкі. Але ці ёсць гэта сапраўдным выйсцем? Вярнуўшыся неяк узімку з гастрольнай паездкі па Нямеччыне, вымушаны былі адмовіцца ад залы без ацяплення, бо акцёры пачалі хварэць і ні пра якія новыя выступленні не магло быць нават і гаворкі. Прыдбалі новае месца для рэпетыцый, але ці можа задаволіць патрэбы трупы маленькі пакойчык?

— Каб не ўсе гэтыя праблемы, — распавядае Вячаслаў, — выступаць можна было б і некалькі разоў на месяц і мець свой пастаянны рэпертуар.

А ў наяўнасці ў "Жэста" — шматлікія рэпрызы і тэатральныя дзеі. Найбольш удалымі самі артысты лічаць спектаклі "Вясёлая душа", "Карнавал", "Маскі", "Не смешна...", "У ціхім віры". Адной з апошніх прац з'яўляецца "Традыцыйная кухня вострава Рукю". У кожным спектаклі — спалучэнне, шчыльнае ўзаемапранікненне культур Усходу і Захаду. Але ў цэнтры ўвагі заўсёды — самотны чалавек сярод вялікіх праблем, настальгічных пакутаў па страчаным мінулым. Трагічнае і камічнае — побач, як і ў рэальным жыцці (ці — не як у жыцці?). Пры гэтым акцёры адштурхоўваюцца ад высокай філасофіі, але гэта не перашкаджае ім выкарыстоўваць клаунаду, гратэск, што і робіць "Жэст" адметным сярод іншых мім-тэатраў.

Усе спектаклі нараджаюцца як імправізацыі падчас рэпетыцый, і гэтыя "моманты творчасці" вельмі дарагія для кожнага ўдзельніка трупы.

"Жэст" заўсёды быў супраць аднастайнасці як на сцэне, так і ў жыцці. Яны ніколі не рабілі выключна камедый ці трагедый. І апошні спектакль — якраз пра тое, што не існуе толькі чорна-белых кантрастаў, жыццё — гэта шматколерная палітра. Таму іншы раз падчас стварэння забаўляльнага нумара атрымліваецца цэлы спектакль з псіхалагічнымі "раскрутамі". Спрабавалі адыходзіць у "чыстую абстракцыю", філасофскія праблемы, а вынік — выбухі рогату ў зале.

ЯНЫ вучаць нас "слухаць" вачыма. Для жэстаўцаў галоўнае — не вонкавы рух на сцэне, а той нячутны рух, які існуе ўнутры кожнага з нас, рух як люстэрка душы.

А таму "Жэст" нельга назваць камерцыйным тэатрам. І абыходзяць яго сваёй увагай айчынныя спонсары і фундатары. Чаму? Бо жэстаўцы заўсёды былі прынцыповымі ў стаўленні да сваёй творчасці, ніколі не выконвалі ніякіх так званых "сацыяльных замоваў" з нагоды чарговай даты ці юбілею. Адмаўляліся. А колькі было просьбаў, загадаў... Даводзілася шукаць сваю нішу ў тагачасным ландшафце тэатральнага жыцця, каб менш "чапалі". Хаця ўжо, напэўна, тады перад імі маглі б адчыніцца "дзверы на Захад", была б магчымасць здымацца на TV, удзельнічаць у салідных, афіцыёзных канцэртных праграмах.

— Нас заўсёды цікавілі эстэтычныя вынікі нашае працы, — гаворыць Іназемцаў. — Мастацтва павінна заставацца Мастацтвам, а не прымітыўнага ўзроўню відовішчам, як патрабавалі ад нас "заказчыкі".

УСЁ, што робяць жэстаўцы, яны робяць на чыстым энтузіязме і самаахвярнасці. У фінансавым плане не маюць ні капейчыны прыбытку, адны выдаткі. Гэта таксама адна з прычын таго, што яны рэдка з'яўляюцца перад гледачамі. З дрыгвы жабрацтва "выцягваюць" пастаянныя турнэ па Нямеччыне. Захад дае сродкі да існавання беларускім артыстам.

З тае пары, калі надышла "адліга" ў палітычных стасунках паміж Захадам і Усходам, тэатр стаў выязным. У 89-м "Жэст" удзельнічаў у тэатральным карнавале Капенгаген — Масква "Next-stop Soviet", які праходзіў праз Мінск. Падчас карнавалу Слава і пазнаёміўся э Лотай Айцнер, рэжысёркай і актрысай з Нямеччыны. Яна неўзабаве сталася менеджэрам трупы і пачала інтэнсіўна прабіваць для "Жэста" "акно ў Еўропу". З таго часу яны аб'ездзілі ледзь не ўсю Нямеччыну, былі ў Швейцарыі, Аўстрыі, прымалі ўдзел у мім-парадзе ў Кіеве, "Кангрэсе дурняў" у Санкт-Пецярбургу.

ЗАРАЗ пасля месячнай паўзы "Жэст" зноў выходзіць на беларускую сцэну. 6, 7 красавіка яны ў чарговы раз запрашаюць сваіх сяброў у тэатр на Юбілейнай. Пасля — травень, чэрвень, кастрычнік — гастролі па Нямеччыне. Ужо сёння "Жэст" там чакаюць і праводзяць папярэдні promotion.

— Для немцаў, на маю думку, мінуў ужо час палітычнай цікаўнасці да нашай краіны, застаўся традыцыйны інтарэс да культуры, — працягвае Вячаслаў. — Немцы — эмацыйна стрыманая нацыя, і гэта не можа не адбівацца на нямецкай культуры ўвогуле. Таму наша творчасць для іх — сапраўдны эмацыйны шок. Мы не прыстасоўваемся да густаў нямецкай публікі. Але галоўнае — нас там чакаюць і імкнуцца стварыць умовы для творчасці. А астатняе — ужо не істотна.

А ў нас жа, як бачна, усё наадварот.

Грошы, зробленыя на гастролях у Нямеччыне, тэатр-студыя "Жэст" мяркуе ўкласці ў новы праект — святкаванне свайго пятнаццацігоддзя. І больш шырока заявіць пра сябе. Але пакуль гэта застаецца пытаннем часу. А час цяпер — самі ведаеце, які...

**Міхась РАВУЦКІ**

*На здымках: сцэны са спектакляў.*

**Фота Ёрга ХЕЙНКЕСА (Германія)**

АПОШНЯЕ ІНТЭРВ'Ю

# НЕ АДЦУРАЮСЯ, НЕ АДРАКУСЯ!

***Гэтае інтэрв'ю з выдатным Паэтам было падрыхтавана да друку і мы меркавалі даць яго ў адным з бліжэйшых нумароў штотыднёвіка. Але цяжкая вестка прыйшла да нас у панядзелак: памёр Пімен Емяльянавіч Панчанка...***

***Так ён думаў... Так ён выглядаў у апошнія месяцы свайго жыцця...***

*Ты родная мая, Беларусь,*
*Ты гора маё і пакута,*
*І ад цябе я ніколі*
*не адцураюся, не адракуся!*
***Пімен Панчанка***

***Творчасць Пімена Панчанкі насамперш — гэта абвостраная грамадзянскасць, высокі пачуццёвы ўзрух, нецярпімасць паэта да маны і ашуканства, прытоены супраціў працэсу духоўнай энтрапіі асобы і грамадства, абавязковая настроенасць на палеміку з унутраным апанентам.***

***Хворы паэт. Ведаючы гэта, ашчаджаючы яго здароўе, на многае не разлічваю, пытаюся пра самае пільнае, тое, што даўно смылела, не давала спакою. Перада мною адзін з нямногіх сёння беларускіх літаратараў, хто актыўна тварыў яшчэ ў 30-я гады, быў знаёмы з Янкам Купалам, сустракаўся, размаўляў з ім, а таму — першае пытанне:***







**— Пімен Емяльянавіч, на Ваш погляд, якое месца займае Янка Купала ў свеце літаратурнага мастацтва? Што б Вы маглі сказаць пра ўплыў Купалы на развіццё беларускай паэзіі? Ці адчувалі Вы на пэўным этапе сваёй творчасці ўздзеянне мастацкага слова Купалы?**

— Янка Купала — пачынальнік, асноўны мастак, тэарэтык, заканадаўца ўсёй беларускай літаратуры XX стагоддзя. Ён быў вялікім пісьменнікам, палымяным грамадзянінам. Яго даўнія выступленні па нацыянальным пытанні, адносна лёсу роднай мовы і літаратуры і сёння з'яўляюцца актуальнымі. Янка Купала пра многае пісаў праўдзіва і яскрава. Цяжкая доля народа, яго безупынная праца, светлыя надзеі — усё легла ў бессмяротныя радкі купалаўскай паэзіі. Згадаю верш "Прарок", у якім Я.Купала смела, магутна, не адыходзячы ад праўды, напісаў вобраз прарока:

*А людзі, глянуўшы на сонца,*
*Адказ казалі грамадой:*
*— Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,*
*Калі мы пойдзем за табой?*

А верш "Дэпутаты і грамадзяне", напісаны ў 1915 годзе, гучыць і сёння злабадзённа:

*Селі ў Думу думаць думы*
*Паны-дэпутаты*
*І, як шэршні, між сабою*
*Спор вядуць заўзяты.*
*Той крычыць: такіх нам трэба*
*Ладаў і парадкаў!*
*Той гудзіць: не трэ' нічога —*
*Ўсё ў Русі йдзе гладка!*
*Хто з іх праў, а хто не правы, —*
*Трудна адгадаці, —*
*Адно толькі — грамадзяне*
*Змушаны маўчаці.*

Але асноўнае сваё імкненне Купала выказаў у вершы "З кутка жаданняў" (1912):

*З цэлым народам гутарку весці,*
*Сэрца мільёнаў падслухаць біцця —*
*Гэткай шукаю цэлы век чэсці,*
*Гэта адно мне падпорай жыцця.*

Янка Купала ў жыцці быў прывабны чалавек — сумленны, праўдзівы, заўсёды адгукаўся на чужую бяду, крыўду. Жыў ён па вуліцы Садовай, дзе цяпер знаходзіцца музей народнага паэта. Мы, маладыя настаўнікі і студэнты, часта праходзілі міма яго хаты, каб незнарок сустрэць Івана Дамінікавіча ці яго жонку Уладзіславу Францаўну. Гэта нам часта ўдавалася. Было прыемна глядзець на Янку Купалу, як ён ішоў ад свайго дома па вуліцы, цяпер праспекце Скарыны, да Дома пісьменнікаў. Ён заўсёды быў апрануты вельмі ахайна, нібы святочна. Мы заходзілі наперад, каб паздароўкацца з любімым паэтам.

Пазней я многа разоў слухаў выступленні Янкі Купалы, чытанне вершаў. Трэба сказаць, Купала кепска чытаў свае вершы: без падкрэслівання асобных слоў і выразаў, роўным голасам. Але асноўны іх сэнс даходзіў да кожнага сэрца, кранаў яго.

У часе далучэння да СССР Заходняй Беларусі я працаваў у Мінску. Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і я былі выкліканы ў штаб БВА, які знаходзіўся тады ў Смаленску, дзе нам было даручана выдаваць беларускую франтавую газету. Перш чым рушыць у Заходнюю Беларусь, мы спыніліся ў Мінску ў клубе пісьменнікаў.

Аднойчы сядзім мы з Міхасём Лыньковым (астатніх хлопцаў Лынькоў адпусціў па хатах), раптам уваходзіць Янка Купала. Прывітаўшыся, крыху пагаварылі пра радасную вестку, а пасля Іван Дамінікавіч, падаючы аркуш, кажа: "Паглядзіце, па-мойму, да сённяшніх падзей падыходзіць гэты верш":

*Час склікаці ўжо грамаду*
*На вялікую нараду,*
*На вялікі сход!*
*Хай рассудзіць, хай разважа,*
*Слова цвёрдае хай скажа,*
*Скажа сам народ!..*

Мы прачыталі верш, і Лынькоў сказаў Івану Дамінікавічу: "Верш цудоўны і ўсе яго добра ведаюць, але напісаны ён яшчэ ў 1918 годзе. Можа, вы, дзядзька Янка, напісалі б новы верш пра сённяшнія падзеі?" Дзядзька Янка змаркатнеў і сказаў: "Падумаю"... Ён пайшоў тады ад нас яўна засмучаны.

Восенню 1939 года Янка Купала і Якуб Колас многа выступалі ў друку. Купала стварае ў гэты час цыкл вершаў "На заходнебеларускія матывы", у кастрычніку разам з Якубам Коласам піша зварот да пісьменнікаў Заходняй Беларусі, прымае ўдзел у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, удзельнічае ў літаратурных вечарах у Беластоку.

А там пачалася вайна. Група беларускіх пісьменнікаў ваявала на Бранскім фронце. Па нашых звестках, Купала знаходзіўся тады ў Татарстане, пад Казанню. Ён прымаў удзел у навуковай сесіі АН БССР у Казані, выступаў з дакладам "Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя". Ганаруся, што ў ім упершыню тройчы назваў маё прозвішча, як паэта-франтавіка.

У 1942 годзе я быў супрацоўнікам франтавой газеты "За свободную Беларусь", і тут усіх нас напаткала нечуванае гора — не стала Янкі Купалы. З нашых хлопцаў у Маскве ў гэты час быў Пятро Глебка. Ён расказваў пра апошнія сустрэчы з народным паэтам. Дарэчы, Купала тады не піў нічога моцнага, што адзначалі і іншыя пісьменнікі (М.Лынькоў, К.Крапіва, П.Броўка). П.Глебка сцвярджаў: адбылося цяжкое злачынства, нейкі вораг саштурхнуў Купалу ў пралёт з дзевятага паверха. Так загінуў наш любімы пясняр.

У газетах было надрукавана развітанне з Купалам. Першым стаяла прозвішча Панамарэнкі і апошнім маё, Панчанкі.

У маскоўскім крэматорыі урна з прахам Янкі Купалы знаходзілася побач з урнай славутага генерала Даватара. Праводзіць яе прыйшло шмат пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. Гэта было цяжкае, нязносна горкае развітанне.

А перавезці урну з прахам Янкі Купалы ў Мінск нам давялося толькі ў 1962 годзе. Па яе ў Маскву паехала спецыяльная дэлегацыя пісьменнікаў: Крапіва, Броўка, Танк, Куляшоў і я. У Мінску урну ў нас забралі, і ніхто не ведаў, дзе яна знаходзіцца. А раніцой пачалося апошняе пахаванне. Калі мы вярталіся з могілак, нам насустрач ішло шмат людзей і многія з іх пыталіся: дзе пахавалі Янку Купалу? І мы, хаваючы вочы, адказвалі: на Вайсковых могілках. Людзей ніхто не папярэдзіў аб дакладным месцы і часе пахавання Купалы.

Пасля вайны мы збіраліся (часцей за ўсё ў цёці Уладзі) і мянялі незабыўнага Івана Дамінікавіча. Заўсёды памінкі пачыналі з песні:

*Як на свет радзіўся Янка,*
*Як заплакаў многа-мала...*

У 1949 годзе выдавецтва Акадэміі навук Беларусі выдала зборнік "Янку Купалу". У ім сярод іншых змешчаны і мой франтавы верш "Мінску", дзе ёсць такія радкі:

*Хачу аднаго я: па бруку шурпатым*
*Прайсціся яшчэ раз, зірнуць на муры,*
*Хачу пакланіцца руінам той хаты,*
*Дзе Янка Купала паэмы тварыў.*

У тым жа годзе гэтую кнігу падарыла мне Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, з надпісам: "Паважанаму і дарагому П.Панчанку на шчыры ўспамін аб Янку, 24.7.1949. У.Луцэвіч."

**— Калі ласка, успомніце, якой Вам бачылася Заходняя Беларусь і яе літаратура тады, у перадваенны час? Колькі слоў пра мастацкія пошукі і асобы Максіма Танка, Валянціна Таўлая, іншых паэтаў.**

— Пра літаратуру Заходняй Беларусі да верасня 1939 года мы мала што ведалі. З М.Танкам, В.Таўлаем, П.Пестраком, М.Машарам, М.Засімам, іншымі паэтамі мы пазнаёміліся, а некаторых належна ацанілі і палюбілі, ужо пасля 1939 года.

У канцы 1939 года я разам з Максімам Танкам ездзіў выступаць у розных установах, з захапленнем слухаў яго яркія вершы. Ён адразу стаў маім любімым паэтам (разам з Купалам, Коласам, Куляшовым). Дарэчы, тады пачалася мая асабістая дружба з Максімам. У перадваенныя гады я служыў у Беластоку, дзе жыў з жонкай М.Танк. Мы часта сустракаліся. А ў пачатку вайны мы разам служылі на Бранскім фронце, пападалі пад бамбёжкі, пісалі вершы. Па некалькі вершаў прысвяцілі адзін аднаму. Служылі разам з Лыньковым, Крапівой, Броўкам, Глебкам, Гурскім.

**— Пімен Емяльянавіч, цікава ведаць, якое Ваша стаўленне да тых змен у нашым грамадстве, якія зараз адбываюцца?**

— Сучасныя пераўтварэнні прыйшлі да нашага народа раптоўна: што ўчора лаялі і бэсцілі, сёння пачалі хваліць. Капіталізм заняў месца сацыялізму. Але людзям трэба перабудаваць свой розум, сваю мараль на новы лад, а гэта няпроста і нязвычна. Фермерства правалілася — няма сродкаў, сельгасмашыны страшэнна высокай цаны, ды і мясцовыя ўлады не падтрымліваюць. Прыватызацыя? Некаторую колькасць кватэр прыватызавалі, а далей? Прадпрыемствы, асабліва буйныя і сярэднія, прыватызуюцца з вялікім цяжкасцямі. А тут яшчэ "прыхватызацыя"... Паглядзіце, што пабудавана вакол Мінска, абласных цэнтраў, проста гарадоў і гарадкоў? Дзесяткі і сотні аднапавярховых, двух- і трохпавярховых катэджаў. На якія сродкі? Не на свае. Кожны генерал і палкоўнік, адслужыўшы ў Беларусі, застаецца жыць тут назаўсёды, не вяртаецца ў Маскву, Разань ці Калугу...

Трэба сказаць пра нізкі маральны ўзровень нашага грамадства. Тут, здаецца, поўны распад: на кожным кроку крадзяжы, рабаванні, разбой... А зараз на нашу бяду — нечувана высокія цэны на прадукты харчавання, неабходныя рэчы, праезд па чыгунцы, на аўтобусе. А беспрацоўе...

Пра якія "правы" чалавека можна гаварыць? Колькі б благіх слоў ні казалі новыя перабудоўшчыкі, яшчэ нядаўна мы мелі права на бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, навучанне, танныя кватэры, і для ўсіх была праца. А цяпер? Бяздумна ліквідавалі клас сялянства — самы працавіты, кармілец народа і дбайны ахоўнік зямлі. Наўкола пакінутыя вёскі, рэдкія статкі кароў, запусцелая зямля... Няма каму турбавацца аб людзях вёскі, аб зямлі. Непамерна разбухаюць гарады — чэргі на жыллё на сто гадоў. Моладзь адвучылі працаваць, паважаць людзей працы. Усе падаліся ў спекуляцыю...

Гэта для мяне непрымальна.

**— А што Вас асабліва хвалюе ў сённяшнім літаратурным жыцці рэспублікі?**

— Адносіны да літаратуры і культуры наогул у нашага ўрада, нашай дзяржавы раўнадушныя і абыякавыя. І выдавецтвы, і часопісы, і тэатры, і кіно сёння ў нечуваным застоі. Добрых твораў няма. Раней з'яўляліся рэдкія таленты: Куляшоў, Макаёнак, Караткевіч, Барадулін, Стральцоў, Дудараў... Цяпер штосьці талентаў не бачна...

**Мікола МІКУЛІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Кампутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 868
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**